**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.34, 21.41, 17.04;
Віцебск — 4.19, 21.39, 17.20;
Магілёў — 4.27, 21.30, 17.03;
Гомель — 4.32, 21.19, 16.47;
Гродна — 5.54, 21.55, 17.01;
Брэст — 5.04, 21.46, 16.42.
**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 8 чэрвеня.
**ІМЯНІНЫ:**
Ерма, Ермія;
Люцыяна, Антона



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

13 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
субота, № 118 (21896)



# РОЗГАЛАС

## ЦІ ЛЕГКА ПЕРАКАВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ?

Стварэнне структуры ўласнай абароннай прамысловасці, выкарыстанне яе магчымасцей для патрэб народнай гаспадаркі рэспублікі, адпрацоўка стратэгіі і тактыкі канверсіі —такія мэты сустрэчы-нарады Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча, прадстаўнікоў некаторых міністэрстваў з кіраўнікамі рада абаронных прадпрыемстваў рэспублікі. Пачалася яна раніцай 12 чэрвеня знаёмствам з выстаўкай прадукцыі Брэсцкага электрамеханічнага канцэрна.

Знаёмячыся з усёй разнастайнасцю тавараў, большасць з якіх пакуль што рэдкія госці на прылаўках магазінаў, В. Кебіч заўважыў, што эфект ад канверсіі мог быць намнога больш значным, каб удалося пераадолець інертнасць мыслення кіраўнікоў і спецыялістаў «абаронкі», спаўна выкарыстоўваць яе высокі навукова-тэхнічны патэнцыял для вырашэння вострых праблем рэспублікі. Урад гатоў аказаць дапамогу прадпрыемствам гэтай галіны. Але не тым, хто стаў банкрутам — рынак трэба вучыцца асвойваць самім. Фінансавацца ж будуць канкрэтныя абгрунтаваныя праграмы, перспектыўныя навуковыя распрацоўкі і тэхналогіі, здольныя абагаціць эканоміку рэспублікі, паспяхова канкурыраваць на сусветным рынку.

Як падкрэсліў у гутарцы з журналістамі В. Кебіч, уся прадукцыя павінна стаць канкурэнтаздольнай на сусветным рынку. А значыць, неабходна ствараць камерцыйныя і інфармацыйныя механізмы канверсіі.

Усе каштоўныя пачынанні знойдуць падтрымку ва ўрада, запэўніў прэм'ер. Хоць і самому ўраду трэба больш даверу. Напрыклад, у такім пытанні, як падатковыя скідкі. Іх трэба прымяняць да тых, хто займецца канкрэтнымі навукаёмістымі праграмамі. Было б больш карысці для агульнай справы, каб Вярхоўны Савет на сваёй бліжэйшай сесіі дазволіў ураду самому вызначаць, каго можна зацікавіць у выпуску патрэбнай прадукцыі за кошт зніжэння падаткаў.

У сустрэчы прыняў удзел міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі.

**Іван КУКСА,**
**кар. БЕЛТА.**

## ДА НАС ПРЫЕХАЎ САМ СЕНАТАР...

**Сказаць, што гэта падзея звычайная, я асабіста не бяруся. Па-першае, не так ужо і часта — нават цяпер, калі Рэспубліка Беларусь стала суверэннай дзяржавай, — да нас спяшаюцца члены амерыканскага сената, а, па-другое, гэты прыехаў не проста так, «у разведку», а з канкрэтнай і вельмі патрэбнай справай.**

Па запрашэнню кіраўніцтва знешнеэканамічнай асацыяцыі «АІР» у Мінску знаходзіцца сенатар ад штата Гавайя Стыў Генры Коб, адміністрацыйны дырэктар карпарацыі «Біятэк Фудз». Разам з ім у беларускую сталіцу прыбыў галоўны выканаўчы дырэктар карпарацыі Уільям Джэймс Фахей.

Мэта візіту амерыканскіх бізнесменаў — устанаўленне кантактаў з нашай рэспублікай па рэалізацыі на яе тэрыторыі сучасных медыцынскіх прэпаратаў, і ў першую чаргу — прэпарата «Сел-Гард», які валодае антыаксідантнай актыўнасцю. Сёння ў Беларусі, якая шэсць гадоў назад стала сапраўднай заложніцай чарнобыльскай трагедыі, ён — незаменны сродак. Прайшоўшы клінічныя выпрабаванні ў клініцы Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя Беларусі, «Сел-Гард» ужо ў самы бліжэйшы час павінен з'явіцца ў аптэках і лячэбных установах рэспублікі.

Стыва Коба і Уільяма Фахея ў нас чакалі з вялікім нецярпеннем. Знешнеэканамічная асацыяцыя «АІР» падрыхтавала для іх цікавую і насычаную праграму. Ужо на наступны дзень пасля прыезду ў Мінск іх прыняў намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі Аляксандр Бокач. У Вярхоўным Савеце рэспублікі госці прысутнічалі на сумесным пасяджэнні камісій па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту, ахове здароўя, фізічнай культуры і сацыяльнаму забеспячэнню, па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі і па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях. Напярэдадзе ў амерыканскіх дзелавых людзей — сустрэчы з працаўнікамі прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў рэспублікі, наведванне фармацэўтычных прадпрыемстваў і ўстаноў...

**(Больш падрабязна пра ўсё гэта «Звязда» раскажа на наступным тыдні).**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

**11 чэрвеня ў Савеце Міністраў рэспублікі падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Знешэканомбанкам Беларусі і заходнегерманскім КФВ-банкам.** Гэта адкрыла новую лінію крэдытных паступленняў у беларускую эканоміку.

Як заявіў на праведзенай пасля падпісання пагаднення прэс-канферэнцыі першы намеснік прэм'ер-міністра рэспублікі Міхаіл Мясніковіч, гэта — пачатак практычнай рэалізацыі дагавораў, дасягнутых раней паміж дзвюма дзяржавамі, прадаўжэнне супрацоўніцтва прадстаўнікоў дзелавых колаў, штуршок да паспяховага пачатку інтэграцыі эканомікі рэспублікі ў сусветны эканамічны працэс.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,**
**кар. БЕЛТА.**





У калектыўным сельскагаспадарчым прадпрыемстве «Астрамечава» Брэсцкага раёна нямала працавітых, добрасумленных людзей, сапраўдных майстроў сваёй справы. Сярод іх — загадчык комплексу па гадоўлі цялушак Міхаіл БАЗАН. Статак вялікі — каля 2 тысяч галоў. Зразумела, патрэбна шмат розных кармоў. Іх нарыхтоўцы тут надаецца вялікая ўвага. Ужо ёсць звыш 200 тон сена і 2 тысяч тон сенажу.

**Фота Аляксея СКАКУНА.**

# РАДЫЁ ФАКТ

**Пастаяннае месца прапіскі Вышэйшага гаспадарчага суда СНД — Мінск. Як вядома, пачатак біяграфіі гэтай структуры паклала ташкенцкая сустрэча кіраўнікоў краін Садружнасці. Мэта суда — вырашэнне эканамічных спрэчак паміж дзяржавамі — членамі СНД. Ад кожнай дзяржавы ў гэты гаспадарчы суд дэлегуецца двое суддзяў. Суд незалежны, а таму падпарадкоўвацца будзе толькі Закону. Фінансаваць гэтую структуру будзе кожная дзяржава.**

***

76,7 працэнта старшакласнікаў рэспублікі выказваюць жаданне працаваць на сумесных з іншаземнымі фірмамі прадпрыемствах. 66 працэнтаў гатовы выехаць на заработкі за мяжу — вось такія даныя ўрадавай службы сацыялагічных апытанняў Беларусі.

***

**Расійскія ўлады абмяркоўваюць пытанне аб увядзенні ў Маскве пасады генерал-губернатара сталіцы. Яно ўзнікла пасля выхаду ў адстаўку мэра сталіцы Гаўрыіла Папова.**

***

Яшчэ адно павышэнне цэн на энерганосьбіты можа адбыцца да восені 1992 года. Пра гэта паведаміў эканамічны саветнік урада Расіі Аляксей Улюкаеў.

***

**Першая група добраахвотнікаў Корпуса міру накіравалася ў краіны Балтыі — Эстонію, Латвію і Літву. У яе саставе 43 амерыканцы. Сёлета 250 амерыканцаў адправяцца ў розныя краіны СНД, каб выкладаць англійскую мову і вучыць прадпрымальніцтву.**

У Расіі больш не існуе рэвалюцыйных, ваенных і іншых трыбуналаў. У краіне будуць дзейнічаць толькі грамадзянскія і ваенныя суды.

***

**У Глускім раёне Магілёўскай вобласці згарэў дом фермера Сакалова. Страты, у пераліку на цяперашнія цэны, склалі для фермера больш за паўмільёна рублёў. Вось да чаго даводзіць зайздрасць людская.**

***

Адбылася прэзентацыя акцыянернага таварыства «Спадарожнік». Заснавальнік таварыства — Саюз моладзі Беларусі, былы камсамол.

***

**Пачалося стварэнне грамадска-хрысціянскага аб'яднання «Курапаты». Мэта яго — надаць Курапатам статус мемарыяльнага комплексу, падрыхтаваць праект мемарыяльнай тэрыторыі.**

## «НА ЗЕЛЯНЕЦ—ВЯСНЕ КАНЕЦ»

Усе хрысціяне Беларусі — праваслаўныя, каталікі, пратэстанты, каталікі ўсходняга абраду (уніяты) — адзначаюць 14 чэрвеня вялікае свята — Тройцу, або Сёмуху, якое сімвалізуе провады вясны. Да свята старанна рыхтаваліся: хаты, гаспадарчыя пабудовы, брамы ўпрыгожвалі зелянінай («маем») — галінкамі ліпы, акацыі, клёну, падлога ў хаце і сцяжынкі пасыпаліся аерам. У час свята адбываецца кумаванне, наладжваюцца гульні, у некаторых месцах, напрыклад на Палессі, і да гэтага часу існуе цікавы абрад «ваджэнне куста»: дзяўчаты выбіраюць самую прыгожую сваю сяброўку, упрыгожваюць яе зелянінай і ўсе разам ходзяць па дварах з песнямі, у якіх праслаўляюцца гаспадары, іх дзеці, выказваюцца пажаданні здароўя і дабрабыту. А вечарам ладзіцца вечарына. Абавязковай рытуальнай стравай у гэты дзень з'яўляецца яечня.

Да Сёмухі прымеркавана шмат прыгожых прыказак і абрадаў. Казалі: «Зелянец — хлебу канец», бо вясной найчасцей канчаліся ў селяніна леташнія запасы збожжа. Лічыцца, што кляновае лісце ад «куста» валодае гаючымі ўласцівасцямі. Дастаткова яго толькі размачыць і прыкласці да нарываў ці болек.

У суботу, напярэдадні Сёмухі, у многіх мясцінах Беларусі адзначаюць і летнія (траецкія, сёмушныя) Дзяды. Людзі ідуць на могілкі, магілы замятаюцца бярозавымі галінкамі, прыбіраюцца аерам, кветкамі, сюды ж прыносяць яйкі, пафарбаваныя ў адвары зеляніны.

А ў панядзелак адзначаецца дзень Сашэсця Святога Духу. Калісьці гэта быў першы летні дзень, а таму казалі: «На Духа будзе цёпла і суха». Але ж і лета можа прынесці сюрпрызы, таму ёсць яшчэ адна прыказка: «Да Святога Духа не скідай кажуха, а па Святым Дусе — у тым жа кажусе».

# ЗВАРОТ

## Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### *ДА НАСЕЛЬНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ*

Паважаныя суграмадзяне!

У рэспубліцы склаліся сур'ёзныя цяжкасці ў вытворчасці і нарыхтоўках прадукцыі жывёлагадоўлі ў сувязі са змяншэннем паступлення збожжа з-за межаў рэспублікі і зніжэннем забяспечанасці жывёлы і птушкі кармамі ўласнай вытворчасці. Гэта, разам з тэхналагічнымі недахопамі, прывяло да значнага зніжэння валавога надою малака, аб'ёмаў гадоўлі жывёлы і птушкі, вытворчасці яек і закупак гэтых відаў прадукцыі.

Абстаноўка ў гэтым годзе можа яшчэ больш ускладніцца, калі цяпер не прыняць рашучыя меры па карэннаму змяненню становішча, якое склалася ў калгасах і саўгасах з нарыхтоўкай кармоў.

Ход уборкі траў і нарыхтоўкі фуражу паказвае, што ў многіх гаспадарках допускаецца неапраўданая марудлівасць у назапашванні кармоў, упускаюцца лепшыя тэрміны ўборкі траў першага ўкосу і абмяжоўваюцца магчымасці атрымання паўнацэнных кармоў наступных укосаў.

З-за неспрыяльных пагодных умоў у маі—чэрвені ў многіх раёнах рэспублікі травастой і ўраджай траў чакаюцца горшымі, чым у мінулым годзе, не ўсе калгасы і саўгасы стварылі неабходны запас азотных угнаенняў і не ў поўным аб'ёме правялі падкормку сеяных шматгадовых траў і прыродных сенакосаў. Усё гэта можа прывесці да зрыву назапашвання кармоў, рэзкага пагаршэння іх якасці, а значыць, пацягне за сабой далейшае зніжэнне вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі і збядненне харчовых запасаў. Няцяжка ўявіць, якімі вынікамі гэта можа стаць літаральна для кожнага з нас, асабліва ва ўмовах, калі адсутнічае валюта для закупак збожжа па імпарту.

Выказваючы сур'ёзную заклапочанасць сітуацыяй, якая складваецца, Савет Міністраў рэспублікі лічыць, што цяпер трэба неадкладна прыняць неабходныя меры для выпраўлення гэтага трывожнага становішча. Вырашаць гэтыя пытанні прыйдзецца, разлічваючы толькі на ўласныя сілы, рэсурсы і магчымасці, максімальна мабілізоўваючы намаганні не толькі ўсяго сельскага насельніцтва, але і пры актыўнай, добра арганізаванай дапамозе жыхароў гарадоў і раённых цэнтраў.

Урад Беларусі звяртаецца да вас, дарагія суграмадзяне, да ўсіх жыхароў, ваеннаслужачых і пенсіянераў з пераканаўчай просьбай праявіць разуменне ўзнікшай сітуацыі і ўсімі даступнымі формамі і сродкамі прыняць самы дзейсны ўдзел ва ўборцы траў і нарыхтоўцы кармоў для грамадскай жывёлагадоўлі і жывёлы, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні грамадзян.

Мы звяртаемся да вас, паважаныя калгаснікі і рабочыя саўгасаў, арандатары і фермеры, механізатары і жывёлаводы, народныя дэпутаты мясцовых Саветаў, кіраўнікі і спецыялісты гаспадарак, арганізаваць работу па ўборцы траў і нарыхтоўцы кармоў так, каб не дапусціць страт вырашчанага ўраджаю. Ад вашага майстэрства, умення, хлебаробскага характару сёння ў рашаючай меры залежаць грамадская стабільнасць, дабрабыт і будучыня беларускага народа.

Мы звяртаемся да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў зрабіць усё магчымае, каб мабілізаваць працоўныя калектывы на масавы ўдзел у корманарыхтоўках. Выказваем надзею, што мясцовыя Саветы, Мінсельгаспрод, Мінгандаль, Міністэрства аховы здароўя, Белкаапсаюз і іх падведамныя арганізацыі, кіраўнікі гаспадарак прыкладуць максімум намаганняў для эфектыўнага выкарыстання працоўных рэсурсаў і тэхнічных сродкаў, ствараць усе неабходныя ўмовы для прадукцыйнай працы і паўнацэннага адпачынку і харчавання ўсіх, хто прымае ўдзел у корманарыхтоўках.

У гэтай складанай сітуацыі надзвычай важна ўменне спецыялістаў, арганізатараў вытворчасці ўсіх узроўняў аператыўна, у залежнасці ад абстаноўкі, якая складваецца, манеўраваць тэхнікай, тэхналогіяй і рабочай сілай і, самае галоўнае, праяўляць дысцыплінаванасць і адказнасць і дабівацца гэтага ад усіх, хто працуе побач.

Урадам рэспублікі прымаюцца меры па адшуканню крэдытных рэсурсаў, гаруча-змазачных матэрыялаў, запасных частак, шпагату і плёнкі для забеспячэння нарыхтоўчых работ, а для заахвочвання ўсіх работнікаў, спецыялістаў і кіраўнікоў гаспадарак, занятых на нарыхтоўцы кармоў, выдзяляюцца адпаведныя грашовыя сродкі. У мэтах павышэння зацікаўленасці ўдзельнікаў нарыхтоўкі кармоў у рабоце кіраўнікам гаспадарак рэкамендавана прымяняць на дагаворнай аснове натуральную аплату ў выглядзе прадукцыі жывёлагадоўлі і раслінаводства.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь спадзяецца на свядомасць і высокую грамадзянскую адказнасць насельніцтва за вырашэнне праблемы забеспячэння жывёлагадоўлі кармамі і стварэння на гэтай аснове рэальных прадпасылак для больш поўнага задавальнення патрэбнасцей кожнай сям'і ў прадуктах харчавання.

### *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб мерах па павелічэнню вытворчасці і павышэнню якасці кармоў у 1992 годзе

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь адзначае, што ў гаспадарках рэспублікі ў асноўным з-за недахвату фуражу, а таксама ў выніку тэхналагічных недахопаў і зніжэння дысцыпліны скараціліся аб'ёмы вытворчасці і нарыхтоўкі ўсіх відаў прадукцыі жывёлагадоўлі, узраслі затраты на атрыманне адзінкі прадукцыі. У сувязі са змяншэннем паступлення ў рэспубліку збожжа і шротаў становішча з забеспячэннем жывёлагадоўлі канцэнтраванымі кармамі пагоршылася, што патрабуе прыняцця дадатковых мер па павелічэнню запасаў кармоў уласнай вытворчасці.

Ход уборкі траў і нарыхтоўкі фуражу паказвае, што ў многіх калгасах і саўгасах дапускаецца неапраўданая марудлівасць у назапашванні кармоў, упускаюцца лепшыя тэрміны ўборкі траў, у сувязі з чым пагаршаецца якасць нарыхтоўваемых кармоў і абмяжоўваецца магчымасць атрымання наступных паўнацэнных укосаў. Так, па стану на 8 чэрвеня 1992 г., у Віцебскай вобласці скошана ўсяго толькі 2 працэнты плошчаў траў, Магілёўскай — 3, Гомельскай і Мінскай — па 10, Гродзенскай — 17 і ў Брэсцкай — 23 працэнты. Прычым скошана іх значна менш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года (у цэлым па рэспубліцы — на 14 працэнтаў, у Гомельскай вобласці — на 29, Гродзенскай — на 14, Брэсцкай — на 13 працэнтаў). Крайне мала выраблена ў гаспадарках і прададзена прадпрыемствам камбікормавай прамысловасці травяной мукі — адпаведна 7 і 8 працэнтаў заданняў. Аб'ёмы вытворчасці гэтай мукі скараціліся ў параўнанні з мінулым годам на 30 працэнтаў (у Віцебскай вобласці — на 72 працэнты, Гомельскай — на 40, Гродзенскай — на 30, Магілёўскай — на 29, Мінскай — на 27 і ў Брэсцкай — на 14 працэнтаў). Адставанне ў продажы мукі дапушчана гаспадаркамі Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей. У цэлым па рэспубліцы нарыхтавана кармоў на 45 тыс. тон кармавых адзінак (на 24 працэнты) менш, чым у мінулым годзе.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, аблвыканкомам і райвыканкомам неадкладна разгледзець ход нарыхтоўкі кармоў у калгасах і саўгасах і, зыходзячы з узнікшай сітуацыі, прыняць дадатковыя меры па павелічэнню вытворчасці высакаякасных кармоў, маючы на ўвазе ўдакладніць гаспадаркам заданні па назапашванню сена, сенажу, сіласу, забяспечыць паляпшэнне арганізацыі нарыхтоўчых работ, шырокае прымяненне прагрэсіўных тэхналогій, расшырэнне плошчаў пад паўторнымі пасевамі кармавых культур, своечасовы догляд шматгадовых траў і лугапашавых угоддзяў, увядзенне ў абарот невыкарыстоўваемых земляў і прыцягненне людскіх і тэхнічных рэсурсаў з прамысловых прадпрыемстваў, з арганізацый і ўстаноў у гарадах і раённых цэнтрах для аказання дапамогі вёсцы ў нарыхтоўцы кармоў, з тым каб атрымаць у 1992 годзе на ўмоўную галаву жывёлы не менш як 15 цэнтнераў кармавых адзінак травяных кармоў.

2. Рэкамендаваць кіраўнікам калгасаў і саўгасаў праводзіць аплату працы накіраваных на нарыхтоўку кармоў на дагаворнай аснове, у тым ліку з выкарыстаннем натуральнай аплаты ў выглядзе прадукцыі жывёлагадоўлі і раслінаводства.

3. Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання і Міністэрству фінансаў у 3-дзённы тэрмін распрацаваць і давесці да ведама зацікаўленых умовы і меры эканамічнага стымулявання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, незалежна ад форм уласнасці, за найбольш поўнае забеспячэнне жывёлагадоўлі травянымі кармамі ў 1992 годзе за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, выдзеліўшы на гэтыя мэты 350 млн. рублёў (для заахвочвання ўдзельнікаў нарыхтоўкі кармоў, уключаючы кіраўнікоў, спецыялістаў гаспадарак і прыбыўшых работнікаў, а таксама частковага пакрыцця расходаў, звязаных з прыцягненнем работнікаў на нарыхтоўку кармоў).

4. Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання і Дзяржаўнаму камітэту па забеспячэнню нафтапрадуктамі забяспечыць пастаўку ў чэрвені-ліпені 1992 г. сельскагаспадарчым прадпрыемствам рэспублікі 2 тысяч тон сінтэтычнага шпагату, 18,7 тыс. тон поліэтыленавай плёнкі, запасных частак для сельскагаспадарчай тэхнікі на суму 473 млн. рублёў, 194 тыс. тон аўтамабільнага бензіну і 342 тыс. тон дызельнага паліва, а таксама ў неабходнай колькасці іншых матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў для забеспячэння беспераборнай работы тэхнікі на нарыхтоўцы кармоў. Рэкамендаваць Белаграпрамбанку выдзеліць для закупкі гэтых рэсурсаў неабходныя крэдыты.

5. Прасіць Нацыянальны банк адшукаць у чэрвені-ліпені 1992 г. магчымасць бесперашкоднага выдзялення крэдытных рэсурсаў Белаграпрамбанку для мэтавага крэдытавання мерапрыемстваў, звязаных з нарыхтоўкай кармоў і набыццём матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і ўгнаенняў на гэтыя мэты.

6. Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання ў тыднёвы тэрмін адшукаць магчымасць выдзялення ў неабходных аб'ёмах грашовых сродкаў на аплату работ раённых міжгаспадарчых аграхімічных лабараторый па вызначэнню якасці нарыхтоўваемых кармоў і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Дзяржэканомплану, Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях і аблвыканкомам, улічваючы вострую неабходнасць прымянення азотных угнаенняў для фарміравання плануемага ўраджаю кармавых культур і ў сувязі з іх дэфіцытам, спыніць у чэрвені-ліпені 1992 г. вываз гэтых угнаенняў за межы рэспублікі, за выключэннем колькасцей, прадугледжаных рашэннямі ўрада рэспублікі.

7. Аблвыканкомам, райвыканкомам і Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва практыкаваць накіраванне грамадзян з ліку незанятага насельніцтва ў калгасы і саўгасы на работы па нарыхтоўцы кармоў.

8. Дзяржкамстату забяспечыць прадстаўленне інфармацыі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь па выкананню гэтай пастановы.

9. Міністэрству інфармацыі сумесна з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання арганізаваць рэгулярныя тэле- і радыёперадачы, публікацыю ў газетах і часопісах матэрыялаў па праблемах стварэння трывалай кармавой базы, шырока падключаць да іх падрыхтоўкі вучоных, кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, а таксама перадавікоў вытворчасці.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

12 чэрвеня 1992 г. г. Мінск.

**1937-ы... У гісторыі рэспублікі гэты год — без перабольшанняў — быў па-сапраўднаму чорным і жудасным. 11 красавіка ў Магілёўскім доме вар'ятаў, не вытрымаўшы нечалавечых допытаў і катаванняў, памёр Зміцер Жылуновіч — вядомы літаратар Цішка Гартны, старшыня першага ўрада Беларусі. 22 красавіка ў вагоне цягніка Уладзівасток — Масква застрэліўся былы старшыня Савета Народных Камісараў рэспублікі Язэп Адамовіч. 16 чэрвеня ў сваім рабочым кабінеце ў Доме ўрада пакончыў з сабой старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР і адзін з сустаршынь ЦВК СССР Аляксандр Чарвякоў. А праз пяць дзён — 21 чэрвеня — забіўся насмерць, кінуўшыся галавой уніз у пралёт паміж лесвіцамі ў НКУС, старшыня Саўнаркома Беларусі Мікалай Галадзед: яго вялі на чарговы допыт...**

**Чатыры АСОБЫ! А дадайце яшчэ сюды сотні тысяч нашых радавых суайчыннікаў, таксама знішчаных у той год самай жудаснай і бесчалавечнай сістэмай — сталінізмам. Людзей без пасад, тытулаў і званняў, але такіх жа шчырых, сумленных і праведных — і перад сабой, і перад Айчынай... І сэрца замрэ, калі ўсё гэта ўявіць хоць бы на адно імгненне.**

**Наш расказ пра тое, як партыйна - сталінская машына знішчыла аднаго з гэтых мільёнаў — старшыню ЦВК СССР і БССР Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова.**

# ЗАГАДКА ЧАРВЯКОВА

XVI З'ЕЗД Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, які пачаўся 10 чэрвеня 1937 года, павінен быў, па цвёрдаму перакананню яе лідэраў, стаць рашаючым. І найперш належала даць «рашучы бой», «нанесці канчатковы разгром» (іншай тэрміналогіі бальшавікі не прызнавалі) «ворагам народа» — нацыянал-дэмакратам, апартуністам, усялякага роду ўхілістам... Для дасягнення гнюснай і подлай мэты, пастаўленай Масквой, КП(б)Б не ведала межаў. Беспадстаўныя абвінавачанні і ярлыкі, даносы і правакацыі, фабрыкаванне неіснуючых «саюзаў» і груповак — партыя бальшавікоў і яе верны памагаты — народны камісарыят унутраных спраў у прамым сэнсе слова вялі фізічнае вынішчэнне беларускага народа.

Ужо пры адкрыцці чарговага партыйнага «форуму» стала відавочным: чарга сталінскай гільяціны дайшла да члена бюро ЦК КП(б) Беларусі, старшыні ЦВК СССР і БССР Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова.

...За тры месяцы да з'езда першым сакратаром ЦК КП(б)Б быў прызначаны Васіль Фаміч Шаранговіч. Дарэчы, ён стаў першым беларусам па нацыянальнасці, хто, нарэшце, узначаліў «кіруючую і накіроўваючую сілу» рэспублікі. Хто толькі не кіраваў да яго — на працягу амаль дваццаці гадоў — нашым гаротным краем: армянін Мяснікян і літовец Міцкявічус-Капсукас, латыш Кнорын і паляк Багуцкі, рускія Асаткін-Уладзімірскі і Крыніцкі, яўрэі Гамарнік, Гей... Шаранговіч жа, пакіданы «воляй» Масквы па Іркуцкай акрузе (там ён быў першым сакратаром акруговага камітэта ВКП (б), Казахстану і Харкаўскай вобласці, дзе ён з'яўляўся ўпаўнаважаным Камітэта партыйнага кантролю ВКП (б), толькі тады, у 1937-м, быў «ацэнены» белакаменнай і вернуты на радзіму. Правераны сталіністамі ён быў дасканала, і ў тым, што справіцца з ганаровым і адказным даручэннем, ніхто з акружэння «бацькі народаў» хутчэй за ўсё не сумняваўся.

Не паспеў Шаранговіч адкрыць з'езд, сфарміраваць яго кіруючыя органы, як у прэзідыум пайшоў сапраўдны касяк запісак з залы. І датычалі яны, у асноўным, аднаго і таго ж чалавека...

«Таварышу Шаранговічу.

Скажыце, ці правераны паліттвар Чарвякова і яго прыналежнасць да ўсіх варожых контррэвалюцыйных арганізацый?».

«Хачу спытаць у т. Чарвякова, як старога, адказнага работніка Беларусі, у якога на вачах класавыя ворагі рабілі свае гнюсныя справы. Чаму ён не прымаў мер супраць гэтых ворагаў? Відавочна, у некаторых пытаннях ён сам быў з імі салідарны, слепа давяраў усялякім прахадзімцам, нацдэмам, якія аказваліся польскімі шпіёнамі, вылучаў іх на адказныя пасты...»

«Тав. Шаранговічу. Адкажыце, як Чарвякоў выяўляў ворагаў партыі?».

І г. д., і да т. п.

Першы сакратар ЦК адчуваў сябе няёмка: такога павароту партыйнага «форуму» ён ніяк не чакаў. Непрыемна было і перад членам прэзідыума выканкома Камуністычнага Інтэрнацыянала, дзеячам міжнароднага і балгарскага рабочага руху Васілём Каларавым, які прысутнічаў на з'ездзе, ды і нявыкрутка атрымлівалася вялікая: Аляксандр Чарвякоў — тут, сярод дэлегатаў, як члена бюро ЦК яго трэба было вылучаць у прэзідыум... Адным словам, наспяваў канфлікт.

Вопытны партыйны работнік, Шаранговіч змог усё ж накіраваць работу з'езда ў патрэбнае рэчышча. Пераважную большасць прысутных ён супакоіў тым, што сказаў: таварыш Чарвякоў з намі, слова ён атрымае, і мы яго паслухаем...

Васілю Фамічу было і сапраўды цяжка. Незадоўга да гэтага з ягонага ведама НКУС арыштаваў старшыню Савета Народных Камісараў БССР Мікалая Галадзеда, народнага камісара асветы Аляксандра Чарнушэвіча, іншых вядомых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў рэспублікі. І хоць сам Шаранговіч ведаў іх лепш, чым усе энкэвэдэшнікі, разам узятыя, — і па сумеснай рабоце ў Беларусі, і як надзейных прыхільнікаў беларускай справы, тым не менш пярэчыць дзеянням органаў не стаў: маўляў, хто іх ведае, гэтых «перараджэнцаў»...

«Няўжо і Чарвякоў вораг?» — гэта думка-пытанне не давала яму спакою ні на момант. «Але ж ён — адзін з сустаршынь Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР... Няўжо там, пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, не могуць разабрацца?! З кім бы параіцца, у каго б знайсці падтрымку...»

І першы сакратар вырашыў дзейнічаць на свой страх і рызыку. Прынамсі, кіраўніку такога рангу гэта было не ў першы — і тым больш не ў апошні раз.

Аднак даць слова Чарвякову раней, чым зрабіць справаздачу ЦК КП(б)Б XVI з'езду, Шаранговіч, натуральна, не мог. Што было яму сказаць, як паднесці гэтыя сумненні і падазрэнні — і «таварышаў па партыі», і свае, асабістыя... Рэбусаў і галаваломак, адным словам, было больш чым дастаткова.

І гэта пры тым, што вопыту абвінавачванняў і вынясення прыгавораў партыя бальшавікоў ужо мела шмат. Там, у Маскве, «старэйшыя таварышы па партыі» ўжо закляймілі былі як здраднікаў і ўхілістаў М. Бухарына, А. Рыкава, М. Томскага... Ды што яны! ВКП(б) разграміла і адстаяла свае пазіцыі — а гэта Шаранговіч ведаў выдатна — нават у барацьбе з цэлымі апазіцыямі: Прампартыяй, Працоўнай сялянскай партыяй, Саюзным бюро меншавікоў і інш. Адтуль жа, з Масквы, паступала катэгарычная і адназначная каманда: выяўляць і самым строгім чынам караць «саўдзельнікаў» контррэвалюцыі і нацдэмаўшчыны, спачуваючых ім.

Васілю Шаранговічу карцела падтрымаць гэту «барацьбу» адразу ж; тут — на месцы, у непасрэднай «сутычцы» са «здраднікамі».

...Адносна Аляксандра Чарвякова ён сказаў у справаздачы ўсяго некалькі радкоў:

«У святле ўскрытых фактаў контррэвалюцыйнай, здрадніцкай ролі БКА (маецца на ўвазе Беларуская камуністычная арганізацыя, створаная ў 1920 годзе Усеваладам Ігнатоўскім і яго сябрамі, якую падтрымалі тагачасныя кіраўнікі Беларусі Чарвякоў і Кнорын і члены якой былі прыняты пазней у партыю бальшавікоў, — заўвага **аўтара**), нацдэмаў, правых, якую яны адыгрывалі на ўсім працягу часу ў нас, у Беларусі, у святле апошніх іх спраў нядрэнна будзе, калі тав. Чарвякоў, які з усімі імі ў свой час салідарызаваўся і падтрымліваў (хоць ён ужо і крытыкаваў сябе за гэтыя свае памылкі), раскажа нам на XVI з'ездзе, як ён глядзіць на ўсё гэта зараз. Я думаю, што гэта будзе карысна і для нашай партарганізацыі, і для тав. Чарвякова».

Ён, Шаранговіч, быў не толькі вопытны, а і хітры партработнік. Для яго, як бачым, Чарвякоў яшчэ нібыта і таварыш... А яшчэ першы сакратар ЦК меў намер «паслухаць» самаго Аляксандра Рыгоравіча, пачуць думкі іншых пра яго. І гэта не было гульнёй у дэмакратыю. Ён, хутчэй за ўсё, баяўся гневу мас — як большасці з прысутных у зале, так і мас народа; беларусаў, што паспрабавалі ўжо і свабоды, і глумлення... За Чарвяковым жа стаялі сапраўды шырокія масы працоўных.

ТАВАРЫШ... Кажуць, гэта слова «вынайшлі» бальшавікі. Па крайняй меры, ведаю дакладна: выраз (па-руску) «партийное товарищество» належыць ім. Не ўдаючыся ў дэталі (гэта — тэма для асобнай размовы), зазначу: і «таварышамі» (а дакладней — вернымі і аддатнымі адзін аднаму спадзвіжнікамі, тымі, каго радзей называлі больш ёмістым словам — эліта), і «партийным товариществом» нашы і даўнія, і нядаўнія «лідэры» і кіраўнікі ўсіх без выключэння рангаў не кідаліся, а даражылі, цанілі, паважалі... І толькі ў часы рэпрэсій, баронячы найперш «гонар і сумленне» — партыю, а ў другую чаргу (а мо і ў першую?!) — самі сябе, бальшавікі-камуністы не грэбавалі нічым: ні адмаўленнем ад былых «таварышаў», ні абвінавачваннем іх ва ўсіх смяротных грахах: здрадзе, двурушніцтве, салідарызацыі з «ворагамі народа»...

Лёс звёў Чарвякова і Шаранговіча яшчэ ў 1920-м. Тады польскія акупацыйныя ўлады арыштавалі аднаго з арганізатараў партызанскага руху ў Мінскай губерні 23-гадовага Шаранговіча і асудзілі на 20 гадоў катаргі. Лёс аказаўся міласлівым да маладога бальшавіка: дзякуючы цяжкім і складаным перамовам з палякамі яго абмянялі... Толькі-толькі заступіўшы на пасты старшыні Цэнтральнага выканаўчага камітэта і старшыні Савета Народных Камісараў маладой Беларускай рэспублікі, Аляксандр Чарвякоў, пазнаёміўшыся з біяграфіяй, а потым і з самім Васілём, рэкамендаваў яго спачатку намеснікам народнага камісара юстыцыі БССР, а потым — адказным сакратаром Савета прафсаюзаў Беларусі...

Шлях на партыйны Алімп быў адчынены!

...Слова для выступлення Аляксандру Чарвякову далі на ранішнім пасяджэнні XVI з'езда 14 чэрвеня 1937 года.

Ужо ідучы да з'ездаўскай трыбуны, ён адчуваў на сабе пільныя пранізлівыя позіркі дэлегатаў. Практычна кожны з іх ведаў Аляксандра Рыгоравіча вельмі добра: за семнаццаць гадоў работы ў роднай Беларусі ён скалясіў яе ўздоўж і ўпоперак, сустрэўшыся пры гэтым з тысячамі радавых працаўнікоў, не кажучы ўжо пра партыйцаў-бальшавікоў. Ён не меў магчымасці зараз зазірнуць хоць бы некаторым з іх у вочы, у думках, а лепш — уголас спытаць: што здарылася? У чым справа? Адчуваў ён на сабе і вельмі ўжо ўважлівы позірк з прэзідыума — позірк «лідэра» беларускіх бальшавікоў Васіля Шаранговіча...

І голас яго здрыгануўся...

«Я, як член Бюро ЦК КП(б)Б, які займаў адказны пост у Цэнтральным выканаўчым камітэце СССР і Савецкай Беларусі, нясу адказнасць за вялікія недахопы работы бюро ЦК і ўрада, за тое, што мы праглядзелі ворагаў народа...»

У адрозненне ад іншых прамоўцаў, у тым ліку і дакладчыкаў, ён казаў гэта не па паперчыне. І ад гэтага, мабыць, хваляваўся яшчэ больш.

І пасыпаліся з трыбуны новыя, яшчэ больш жорсткія, беспадстаўныя, нахабныя абвінавачванні.

«...За час праверкі партыйных дакументаў ён (перад гэтым было названа прозвішча Аляксандра Рыгоравіча — заўвага **аўтара**) ніводнага чалавека не выкрыў. Я не задаволены пазіцыяй Чарвякова...».

«Мы маем права патрабаваць ад т. Чарвякова не пералікаў яго памылак у мінулым... Мы патрабуем, каб ён выступіў і выкрыў нам людзей, дапамагаў нам раскарчоўваць да канца варожыя карані людзей, якія цяпер, па ўсёй верагоднасці, скрываюцца ў нашай партыі...»

«Тав. Чарвякоў ніколі не знаходзіў сілы і мужнасці гэтай трухлай інтэлігенцыі з нацдэмаўскім адценнем і прамым нацдэмам даць рашучы адпор...»

Шаранговіч ківаў галавой у знак згоды з гэтымі «довадамі» і «аргументамі». І — занатоўваў тое-сёе ў блакнот. Яму прадстаяла нанесці апошні, рашаючы ўдар.

На наступны дзень, 15 чэрвеня, Аляксандр Рыгоравіч сам папрасіў слова для яшчэ аднаго выступлення.

«Мне пастаўлены шэраг сур'ёзных палітычных пытанняў на гэтым з'ездзе, на якія я абавязаны адказаць... 1. Аб маіх палітычных памылках у мінулым. 2. Аб маёй пазіцыі ў выкрыцці ворагаў народа, у прыватнасці, у сувязі з прайшоўшай праверкай партыйных дакументаў; аб узаемаадносінах унутры бюро ЦК КП(б)Б і аб адносінах да Галадзеда (нагадаю: ён быў ужо арыштаваны органамі НКУС — заўвага **аўтара**); аб маёй ролі як старшыні ЦВК у справе кіравання гаспадарчым і культурным будаўніцтвам...»

Чарвякоў адказаў усім. І на запіскі, атрыманыя Шаранговічам пры адкрыцці з'езда, і на пытанні, пастаўленыя дэлегатамі ў час выступленняў. І большасць з прысутных, здавалася, зразумелі яго правільна... Тым больш, што, пакідаючы трыбуну, ён зазначыў: «Многія прад'яўленыя мне абвінавачванні не верныя...»

Але хто-ніхто па-ранейшаму «падкідваў» Аляксандру Рыгоравічу пытанні, запатрабаванні.

Гэта і стала апошняй кропляй...

Пасля ранішняга пасяджэння 16 чэрвеня на з'ездзе быў аб'яўлены традыцыйны перапынак. З'езд праходзіў у Доме ўрада, дзе ў старшыні ЦВК БССР знаходзіўся рабочы кабінет. Аляксандр Чарвякоў зайшоў у пакой, зачыніў дзверы на ключ з сярэдзіны. Узяў свой наркомаўскі рэвальвер і, накіраваўшы ствол у сэрца, націснуў на курок...

Дваццаці-, трыццацімінутны перапынак зацягнуўся больш чым на дзве гадзіны. Аднак партыйны «форум» вырашылі ўсё ж прадоўжыць. Адкрываючы дзённае пасяджэнне, Шаранговіч сказаў, што ў час перапынку ў сябе ў рабочым кабінеце застрэліўся старшыня ЦВК і член бюро ЦК КП(б) Беларусі А. Р. Чарвякоў. Прама на з'ездзе ўтварылі камісію па пахаванню, а на наступным, ранішнім пасяджэнні 17 чэрвеня старшынствуючы — зноў па паперцы — зачытаў аб'яву: хто жадае ісці на пахаванне Чарвякова, могуць пакінуць залу...

ЯЎГЕН КАЛУБОВІЧ у кнізе «Айцы» Беларусі і іхні лёс», выдадзенай у 1985 годзе ў Кліўлендзе, пісаў: «Назаўтра ўпоўдзень (пра смерць А. Чарвякова публічна яшчэ нічога не было ведама) я йшоў Савецкай вуліцай у кірунку тэатральнага сквера. Выпадкам з рэдакцыі газеты «Звязда» выходзіць мой добры знаёмы паэт Р. К., які працуе там за стыльрэдактара. Пад вялікім сакрэтам ён расказвае мне, што, калі чарговы нумар газеты ўжо быў аддрукаваны поўным тыражом, уначы пазванілі з Дому ўраду, загадалі цэлы тыраж затрымаць, а ў газету на апошняй, 4-й, балоне (маецца на ўвазе — паласе — заўвага **аўтара**) пэтытам набраць паведамленне з аднаго сказу: «Учора пакончыў самагубствам старшыня ЦВК СССР і БССР А. Р. Чарвякоў». Калі газета (са спазненнем!) была аддрукавана нанова, а экспедыцыя спяшалася пакаваць яе на рассылку, з Дому ўраду пазванілі ізноў. Загадалі затрымаць і гэты тыраж, цалкам яго знішчыць, а ў паведамленне пра самагубства А. Чарвякова ўставіць словы: «...на глебе сямейных непаразуменняў».

...Сутак, што мінулі пасля трагедыі ў Доме ўрада, хапіла Васілю Шаранговічу, каб грунтоўна перарабіць сваё заключнае слова на з'ездзе.

«Я... у сваім заключным слове намеціў цэлы раздзел адносна выступлення Чарвякова (звярніце ўвагу: ужо не таварыша Чарвякова — заўвага **аўтара**) на гэтым з'ездзе, але ў сувязі з тым, што Чарвякоў, як нам зараз ужо вядома, пакончыў самагубствам на асабістай глебе, мне думаецца, няма ніякай патрэбы многа гаварыць аб гэтым двурушніку, які маскаваўся вельмі доўга ў КП(б)Б, які сваім актам самагубства, хоць і на асабістай глебе (не, гэта ўсё ж быў выклік! — заўвага **аўтара**) зрабіў яўна варожы ўчынак (якое кашчунства — **А. М.**). Ён нібы не вытрымаў той крытыкі, якая разгарнулася на нашым партыйным з'ездзе, з боку членаў партыі, крытыкі вострай і зусім правільнай».

Што ж, калі не было «ніякай патрэбы многа гаварыць...», то і не трэба. Аднак партсакратар зманеўраваў і тут. І выліў на яшчэ цёплага нябожчыка цэлае карыта чарговага бруду.

«Мы ўсе ведаем, як Чарвякоў на ўсім працягу барацьбы КП(б)Б супроць яго памылак ніколі не быў шчырым у сваіх тлумачэннях перад партыяй. Ён заўсёды двурушнічаў. Ён заўсёды манеўраваў з адвакацкімі ўлоўкамі і выверткамі. Мне і многім з нас даволі часта прыходзілася крытыкаваць Чарвякова, і ніколі мы не сустракалі з яго боку шчырасці ў адказах на гэту крытыку. У нас ніколі сумненняў не было, што кожны раз, калі Чарвякоў павінен быў трымаць адказ перад партыяй, ён заўсёды выступаў як адвакат, чыноўнік, які навучыўся вельмі лоўка, па-адвакацку, загладжваць, абыходзіць, дыпламатычна павярнуць і прыкінуцца нявінненькім, прыбядніцца. Ён так зрабіў і тут, на нашым з'ездзе — прыбядніўся, і вось — яму цяжка і т. д., і т. д.

Хто не ведаў Чарвякова, які яшчэ ў былыя часы на з'ездах партыі ўмеў гаварыць і ўмеў граміць тых людзей, якія выступалі супраць яго і выкрывалі яго памылкі. Ён не выступаў тады такім бедненькім, прыбядніўшыся, як тут выступаў. Ён людзей, якія мала-мальскі выступалі супроць яго, зашыбаў і вышыбаў умомант. Не такі Чарвякоў быў бедненькі...»

Перапыню на момант цытаванне, хоць, вядома ж, «лепш» за самога прамоўцу і не скажаш, і не пакажаш яго самаго... Кідаецца ў вочы бедны набор слоў і выразаў — абвінавачванняў у адрас Аляксандра Рыгоравіча. А з другога боку — адкуль за тры месяцы работы назапасіў Васіль Фаміч матэрыял для такіх «вывадаў» і «заключэнняў»? Адкуль такое веданне ўсёй папярэдняй біяграфіі Чарвякова?!

А Шаранговіча было ўжо не спыніць:

«...Вазьміце тое, што ён тут гаварыў аб Галадзедзе. Мяне проста здзівіла. Чалавек ён палітычна граматны. Чалавек бачыць, што Галадзеда на з'ездзе выкрываюць як правага па канкрэтных матэрыялах; Чарвякоў жа ўхітрыўся, гаворачы аб Галадзедзе, пабудаваць сваю прамову так, каб самому вылезці на паверхню, пабудаваў сваю прамову на асабістых адносінах з Галадзедам, не крытыкаваў яго палітычна, не выкрываў правыя справы Галадзеда.

Каму не вядома, што Чарвякоў з Галадзедам разам насаджалі прышчэпаўшчыну; каму не вядома, што яны ўсе дакументы апрабіравалі, будучы ля ўлады, багатварылі Прышчэпава. А хіба ўсе правыя справы Галадзеда Чарвякову не вядомы лепш, чым каму? Яму вядомы лепш. Ён ухітрыўся на з'ездзе, гаворачы аб Галадзедзе, прадставіць сябе такім чынам: які я быў пакрыўджаны Галадзедам, Галадзед мне жыць не даваў. Усе гаварылі, а Чарвякоў Галадзеда не выкрываў... (Вось так: з Аляксандра Рыгоравіча хацелі зрабіць стукача — не больш і не менш! — Заўвага **аўтара**). Ці не выходзіць тут па прыказцы: рыбак рыбака бачыць здаляка. Асабіста цапаліся, а работу савецкага апарата, работу, якую яны ўзначальвалі, разам правалілі.

Таварышы,— працягваў першы сакратар,— ва ўсякім выпадку я абсалютна ўпэўнен, што і наш з'езд, і ўся наша КП(б)Б, і ўвесь народ Беларусі сустрэнуць, ацэняць паведамленне аб самагубстве Чарвякова як яго варожы акт, акт супроць партыі, супроць савецкай улады, супроць народу, супроць усіх нас».

У зале пачуліся галасы: «Правільна!». Як заўсёды, партыя гаварыла ад «імя» народа. Толькі хто ёй даваў на гэта права?!

...З'езд заканчваўся. Пад скляпеннямі Дома ўрада грымелі здравіцы ў гонар «таварыша Сталіна»... Здавалася, бясконцымі былі авацыі і воклічы... І, вядома ж, не абышлося без «бессмяротнага» «Інтэрнацыянала». Дарэчы, прагучаў на з'ездзе і такі воклiч: «Ура!—слаўным чэкістам!»...

Мяркуючы па ўсяму, пра «паводзіны» Аляксандра Чарвякова, ды яшчэ з патрэбнай афарбоўкай і «аргументацыяй», чэкісты расказалі арыштаванаму Мікалаю Галадзеду. І той таксама не стрываў, звёў — толькі некалькі па-свойму — рахункі з асабістым жыццём...

БАЛЮЧА І КРЫЎДНА ўсё гэта чытаць. Балюча — за ахвяр, крыўдна — за катаў... Хоць, прынамсі, няпроста сёння разабрацца і правесці лінію падзелу: дзе — ахвяра, а дзе — кат. Менш як праз тры тыдні (!) пасля XVI з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі — «баявога атрада слаўнай ленінска-сталінскай ВКП(б)» — народны камісарыят унутраных спраў возьме і яго, Васіля Шаранговіча. Для выкрыцця «антысавецкага падполля» ў Мінск прыедзе «сам» Г. Маленкоў. Па яго патрабаванню быў скліканы спецыяльны пленум ЦК КП(б)Б, які прыняў рашэнне, у адным з пунктаў якога гаварылася:

«Прапанаваць усім партыйным арганізацыям:

а) хуткую і рашучую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва польскіх шпіёнаў Галадзеда, Шаранговіча, Бенека (народны камісар земляробства — заўвага **аўтара**), Чарвякова і іншых шкоднікаў і дыверсантаў...»

«Шкоднікам і дыверсантам» Аляксандр Чарвякоў стаў амаль за 17 гадоў работы на палітычнай арэне роднай Беларусі, Васіль жа Шаранговіч — крыху больш чым за чатыры месяцы кіраўніцтва Кампартыяй рэспублікі... У сакавіку наступнага, 1938-га, ён будзе аб'яўлены ворагам народа і расстраляны.

Сталінізм буяў, гільяціна працавала, не ведаючы стомы і перапынкаў.

У лёсах, дзеяннях і палітычных біяграфіях гэтых і многіх іншых дзеячаў Беларусі яшчэ вельмі і вельмі багата «белых плям». Многія факты і падзеі патрабуюць сёння пераацэнкі наогул, шмат што невядома пакуль зусім... Адным словам, працы для высвятлення ісцін тут яшчэ непачаты край. Бо, як казаў хтосьці з вялікіх, варыянтаў у ісціны не бывае...

Вось толькі адзін прыклад для роздуму.

У 1969 годзе **партыйныя гісторыкі** (былі такія, толькі ім адным дазваляўся доступ у архівы КПБ і сховішчы КДБ, дзе ўсё ляжала пад надзейнай аховай. Больш таго, тыя даследчыкі і зарплату **там** атрымлівалі. А хто плаціць, той, як вядома, і музыку заказвае) «знайшлі» **копію** (выдзелена мной. — **Аўтар**) развітальнага пісьма Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, адрасаванага дэлегатам XVI з'езда КП(б)Б. Дзіўна: як у архіў магла трапіць копія? А дзе ж сам арыгінал? І ці не падробка, падтасоўка гэта? Ці не «дакумент», які камусьці калісьці быў патрэбен? Дарэчы, яго тыя ж партыйныя гісторыкі апублікавалі роўна... праз дваццаць гадоў — у 1989-м. А тады, у 1969 годзе, з пісьмом быў азнаёмлены тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў, і ў перапынку аднаго з камсамольскіх форумаў (а моладзь ён вельмі любіў і расказваў ёй заўсёды што-небудзь цікавае і нечаканае) паведаміў юнакам і дзяўчатам пра гэта... Пошукі арыгінала, як мы зразумелі тады, вяліся настойліва і актыўна, аднак яго — і да сённяшняга дня — так і не знайшлі...

Я асабіста не лічу яго за дакумент, хоць і не магу катэгарычна назваць фальшыўкай. Аднак для чытачоў прывяду «пісьмо» поўнасцю.

«XVI з'езду КП(б)Б.

Дарагія таварышы.

Я выступаў на з'ездзе шчыра і адкрыта. Нічога і нікога я не ўтойваў, бо мне нечага ўтойваць. Нікога я не арганізоўваў.

Усе ад мяне адвярнуліся, мне кідаюцца самыя недарэчныя абвінавачванні ў двурушніцтве. Паверце — шлях работы ў БССР быў складаны, цяжкі, але гэты шлях я ішоў толькі ў імя партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам партыі і яе ЦК. Я пакідаю вас з імем партыі і правадыра т. Сталіна ў сэрцы.

Я пакідаю вас, праклінаючы ўсіх ворагаў народа. Я праклінаю беларускіх фашыстаў, агентаў польскага імперыялізму.

Я ведаю, што здзяйсняю жудаснае злачынства, але прашу ніколі не блытаць мяне з ворагамі народа.

Бывайце, таварышы.

А. Чарвякоў».

**Будзем пакуль што лічыць гэта загадкай Чарвякова...**

**Бедны мой народ! Ці атрымаеш ты калі-небудзь праўдзівую гісторыю свайго гаротнага краю? Калі нарэшце палічым мы — усе разам — нашы бязвінныя ахвяры!..**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

1922 год. Аляксандр ЧАРВЯКОЎ выступае на адкрыцці I з'езда Саветаў СССР. Да ракавога стрэлу ў Доме ўрада ў Мінску яшчэ роўна 15 гадоў...

## РАДКІ З БІЯГРАФІІ

Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў нарадзіўся 25 лютага (8 сакавіка па новаму стылю) 1892 года ў вёсцы Дукарка Ігуменскага павета. З служачых. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут (1915 год). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе. У студзені—маі 1918 года — камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята. 1 студзеня 1919 года ў ліку пяці членаў Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада падпісаў у Смаленску Маніфест аб абвяшчэнні БССР. У 1920—24 гг. — старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Савета Народных Камісараў Беларусі; у 1924—37 гг. — старшыня ЦВК БССР; у 1922—37 гг. — адзін са старшынь ЦВК СССР.

ПІСЬМЫ АБ СУВЕРЭНІТЭЦЕ

## ЯКІМ БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ ПАШПАРТ?

У наступным годзе мы атрымаем дакумент аб беларускім грамадзянстве — беларускі пашпарт. Ён павінен быць зроблены на гады, быць цалкам беларускім і адначасова замежным. Запісы ўсіх уласных імёнаў павінны рабіцца на беларускай мове і дубліравацца лацінкай, каб маглі прачытаць людзі, якія не ведаюць кірыліцы.

Імя па бацьку калі і ўказваць, дык вось так: Янка Шклярэвіч сын Лявонаў. У старажытнай Беларусі ў чалавека былі толькі імя і прозвішча. Звярталіся адзін да аднаго наступным чынам: спадар Янка, спадар Шклярэвіч альбо спадар Янка Шклярэвіч. Імя па бацьку пры гэтым не згадвалася. Такі ж зварот быў і да жанчыны: спадарыня Алеся, спадарыня Шклярэвіч, шаноўная спадарыня і г. д.

Нацыянальнасць у пашпарце павінна быць пазначана — не трэба ператвараць нас у абязлічаны натоўп. Мы — беларусы! Апаненты гэтых думак, напэўна, прывядуць у прыклад Злучаныя Штаты Амерыкі. Але іх нельга лічыць узорам, бо гэта краіна — выключэнне. Яе будавала шмат людзей Старога свету шматлікіх нацыянальнасцей, і таму нельга адназначна сказаць, чыя гэта зямля.

На нашай радзіме зусім іншая сітуацыя. Гэта наша старажытная беларуская зямля. На ёй жывём мы, беларусы, найстаражытнейшая славянская нацыя, і з намі добрыя людзі іншых нацыянальнасцей. Тут наша культура, наша мова, традыцыі, звычаі, тут магілы нашых продкаў.

Разам з бела-чырвона-белым сцягам, гербам «Пагоня», гімнам Беларусі, якога мы так доўга чакаем, беларускі пашпарт з'явіцца яшчэ адным сімвалам грамадзяніна Беларусі, яшчэ адным невялічкім крокам да адраджэння нашай краіны.

**Вячаслаў СВІЗУНОЎ,**
**механік завода «Сельгасагрэгат».**

г. Бабруйск.

## РАСІЙСКІ КАНАЛ ЗАМЕСТ БЕЛАРУСКАГА?

Апошнім часам пужаюць адключэннем расійскага канала. Ну і што? Навошта ён патрэбны? Дастаткова і 1-й праграмы. А прапаганду расійскую па гэтым канале (ды яшчэ на метровым дыяпазоне) няма вялікай патрэбы глядзець.

І яшчэ. Чаму на Піншчыне Беларускую праграму перадаюць толькі ў дэцыметровым дыяпазоне? Гэта загадка. Адгадка ж — у рэцыдывах каланіяльнай свядомасці. Напэўна, толькі ў нас магчыма прыніжаць статус свайго дзяржаўнага ўтварэння, робячы недаступным для значных мас насельніцтва Беларускае тэлебачанне.

Тое самае і з радыё. Ледзь ці не адразу за Мінскам яго не чуваць (на доўгіх хвалях).

Застаецца спадзявацца, што новастворанае Міністэрства інфармацыі многае зменіць у лепшы бок. Будзем чакаць. А дзейнічаць трэба. Бо чаму і ў «Калыханцы» мультфільмы гучаць на чужой мове? А калі на роднай, беларускай, загучаць?

**М. РАСЕВІЧ.**

г. Вільня.

## ЗНОЎ ІЛЮЗІІ...

Я думаю, што тэарэтычныя погляды Л. Лойкі на будучыню незалежнай Беларусі (артыкул «Беларусь у геапалітыцы») наўрад ці маюць шанц на практычнае ўвасабленне. Л. Лойка зыходзіць з таго, што Беларусь павінна весці актыўную ўсходнюю палітыку, маючы на мэце схіліць Расію да прызнання яе раўнапраўным партнёрам-пасрэднікам на шляху супрацоўніцтва Усход—Захад. Аднак кіруючыя колы Расіі, як паказваюць, напрыклад, крымскія падзеі, па-ранейшаму прытрымліваюцца старой імперскай палітыкі.

Якраз у гэтыя дні, як паведаміла радыё «Свабода», у Маскве адбылася сустрэча ўкраінскага пасла Крыжаноўскага з уплывовым расійскім дэпутатам Бабурыным. Пры гэтым Бабурын заявіў, што ёсць толькі два віды адносін паміж Расіяй і Украінай: або вяртанне Украіны ў СНД пад прыблізна такі ж, як раней, пратэктарат Расіі, або вайна. Калі пасол здзіўлена заўважыў, што магчымы і шлях раўнапраўнага супрацоўніцтва незалежных дзяржаў, Бабурын адказаў, што такога шляху для Расіі няма. Няўжо Л. Лойка і яго сябры па партыі так званай народнай згоды спадзяюцца на іншы адказ?

Кожны, хто ўважліва сочыць за расійскімі падзеямі, канешне, бачыць, што з чым большымі цяжкасцямі сутыкаецца Расія, тым больш людзей, выхаваных у духу старога імперскага мыслення, збіраецца пад сцягі імпер-дэмакратаў і імпер-камуністаў. Вось чаму я перакананы ў тым, што, будуючы незалежную Беларускую дзяржаву, мы не павінны мець ніякіх ілюзій адносна добрай волі Расіі. Беларусь павінна быць сапраўды нейтральнай дзяржавай з нармальнымі раўнапраўнымі адносінамі з усімі суседзямі. Паколькі, аднак, раней тут існаваў значны «расійскі» перакос, то практычна гэта будзе азначаць большае супрацоўніцтва з іншымі суседзямі. Канешне, цяпер ніхто не ведае, як будзе складвацца гэта супрацоўніцтва. Але калі яно стане станоўчым, трэба будзе падумаць і аб нейкай рэгіянальнай арганізацыі. Я думаю, што на доўгім і складаным шляху да вялікай аб'яднанай Еўропы балтыйска-чарнаморская садружнасць (Балтыя, Беларусь, Украіна) была б для нас найлепшым часовым выйсцем.

**Уладзімір ТУНЯК,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Мінскага педагагічнага інстытута.**

# Што такое фларыстыка

Захапленне фларыстыкай прыйшло да віцябчанкі Ганны Сяргееўны Салаўёвай ужо ў сталым узросце. Кветкі яна любіла заўсёды, але нават і думаць не магла, як паўплываюць яны на яе жыццё і лёс.

Пасля больш чым сарака гадоў плённай работы ўрача і вучонага выхад на пенсію стварыў своеасаблівы «творчы вакуум». Дапамог, як часта бывае, выпадак. Адсутнасць у патрэбны момант віншавальнай паштоўкі навяла Ганну Сяргееўну на думку зрабіць яе сваімі рукамі. Так з'явілася першая работа: складзены з дробных кветак букецік на адваротным баку лопуху.

Сёння на рахунку Салаўёвай некалькі выставак. Мноства прыхільнікаў высока ацанілі яе творчасць. Сама ж Ганна Сяргееўна лічыць, што чым больш людзі думаюць пра кветкі, тым менш яны наносяць шкоды адзін аднаму. Як урач, яна звярнула ўвагу і на аздараўленчы бок гэтага мастацтва. Працатэрапія ў спалучэнні з водара- і фітатэрапіяй аказваюць добры ўплыў на працэс выздараўлення, асабліва тых, хто пакутуе хранічнымі псіханеўралагічнымі і анкалагічнымі захворваннямі.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. (БЕЛТА).

## РАСЛІНЫ І ЗДАРОЎЕ

Зельнік

На Беларусі расце на вільготных лугах, па берагах вадаёмаў сярод хмызнякоў, у ліставых лясах.

Шматгадовая травяністая расліна вышынёй да 150 см. Карэнішча кароткае, тоўстае, мясістае, з прыдаткавымі каранямі. Сцябло адно ці некалькі, прамое, уверсе кароткагалінiстае, апушанае мноствам кароткіх белых валаскоў.

Лісце буйное, ніжняе да 50 см даўжынёй, доўгачаранковае, верхнія лісты круглявыя, знізу аксамітна-лямцавыя, зверху гладкія.

Цвіце ў ліпені — верасні. Кветкі ярка-жоўтыя, сабраныя ў шматлікія карзінкі да 8 см у дыяметры. Крайнія кветкі ад 3 да 5 см, язычковыя; сярэднія — трубчастыя, да 12 см даўжынёй.

# Дзівасіл высокі

### Народныя назвы: жывасіл, бараўнік

Плод — чатырохгранная сямянка даўжынёй 4—5 мм, з чубком; паспявае ў жніўні — кастрычніку.

Карэнішча і карані дзівасілу ўтрымліваюць інулін, эфірны алей (што надае своеасаблівы пах), арганічныя кіслоты, смолы, сапаніны, горкія рэчывы, слізі, пекціны, воск, крыху алкалоідаў.

#### ГАСПАДАРЧАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ

У ГАСПАДАРЦЫ з каранёў дзівасілу высокага атрымліваюць сіні фарбавальнік для тканін. Карані выкарыстоўваюць у лікёра-гарэлачнай вытворчасці для падфарбоўвання і надання паху. Садоўнікі высаджваюць дзівасіл як дэкаратыўную і лекавую расліну.

#### СТРАВЫ З ДЗІВАСІЛАМ

ДЛЯ ХАРЧАВАННЯ выкарыстоўваюць карані дзівасілу, якія надаюць пах і асаблівую слодыч кандытарскім вырабам. Яны таксама багатыя на інулін, які пры перапрацоўцы ў прысутнасці слабых кіслот ператвараецца ў фруктозу (у 1,7 раза саладзейшая за бурачны цукар).

#### ПЕРШЫЯ СТРАВЫ

СУП З ДЗІВАСІЛАМ. У кіпячы булён ці ваду пакласці нарэзаныя моркву, цыбулю, бульбу і варыць на слабым агні. За 10—15 хвілін да гатоўнасці дадаць корань дзівасілу, пасаліць. Перад падачай на стол заправіць смятанай, зелянінай кропу і пятрушкі.

500 г булёну, 100 г бульбы, 50 г морквы, 50 г цыбулі рэпчатай, па 15 г каранёў пятрушкі і сельдэрэю, 20 г кораня дзівасілу, 25 г смятаны, соль, зеляніна кропу і пятрушкі.

СУП-ПЮРЭ З ЗЯЛЁНАГА ГАРОШКУ З ДЗІВАСІЛАМ. Кансерваваны зялёны гарошак разагрэць ва ўласным соку, працерці праз сіта. Здробненыя моркву і корань пятрушкі спасераваць і таксама працерці праз сіта. Усё змяшаць, апусціць у гарачы падсолены мясны булён ці малако. Гатаваць 5—10 хвілін. Прапусціць праз мясарубку карані дзівасілу, заправіць пасераванай мукой, разведзенай вяршкамі да гушчыні смятаны, і варыць 2—3 хвіліны. Перад падачай на стол у талерку пакласці масла, зеляніну кропу і пятрушкі.

500 мл булёну, 100 г гарошку зялёнага кансерваванага, 30 г морквы, 20 г кораня дзівасілу, 25 г цыбулі рэпчатай, 20 г мукі, 50 г вяршкоў, 50 г масла, 20 г кораня пятрушкі, соль, зеляніна кропу і пятрушкі.

#### ДРУГІЯ СТРАВЫ

КАША З ДЗІВАСІЛАМ. Можна варыць кашы з розных круп: аўсяных, грэцкіх, рысавых, пшанічных як на малацэ, так і на вадзе. За 10—15 хвілін да гатоўнасці дадаць здробненыя на мясарубцы карані дзівасілу.

На 1 порцыю кашы неабходна 50—70 г здробненых свежых каранёў ці 20 г парашку з сушаных каранёў дзівасілу.

ПУДЫНГ ТВАРОЖНЫ З РЫСАМ І ДЗІВАСІЛАМ. Рыс прамыць у цёплай вадзе, апусціць у кіпень і варыць да разбухання. Затым уліць малако і варыць да гатоўнасці. Тварог працерці праз сіта, змяшаць з рысавай кашай, дадаць сырое яйка, цукар, здробненыя карані дзівасілу. Масу выкласці ў змазаную маслам форму ці патэльню, паліць смятанай і запячы ў духоўцы.

50 г рысу, 75 мл малака, 50 мл вады, 150 г тварагу, 10 г цукру, 40 г дзівасілу, 50 г смятаны, 1 яйка, соль.

Здробненыя карані дзівасілу дадаюць у здобнае цеста, з якога выпякаюць булачкі, пернікі, пячэнне і іншыя кандытарскія вырабы, для паху.

#### САЛОДКІЯ СТРАВЫ

КАМПОТ З ДЗІВАСІЛАМ. Пры прыгатаванні кампотаў з любых фруктаў і ягадаў дадаць здробненыя свежыя карані ці парашок з высушаных каранёў дзівасілу, цукар, лімонную кіслату і варыць у закрытай пасудзіне да гатоўнасці.

300—400 г фруктаў, 1 л вады, 10 г парашку з каранёў дзівасілу, ці 50 г свежых здробненых каранёў, 1 г лімоннай кіслаты, цукар па смаку.

КІСЕЛЬ З ДЗІВАСІЛАМ. Карані дзівасілу зварыць да мяккасці, адцадзіць, у адвар дадаць сок журавінаў ці іншых ягадаў, цукар, разведзены ў халоднай вадзе крухмал і давесці да кіпення.

20 г каранёў дзівасілу, 200 мл соку, цукар па смаку, 35 г крухмалу, 1 л вады.

НАПІТАК З ДЗІВАСІЛАМ. Свежыя карані дзівасілу прапусціць праз мясарубку, варыць у закрытай пасудзіне 20—30 мінут, працадзіць, у адвар дадаць сок журавінаў, цукар ці мёд.

300 г свежых каранёў дзівасілу ці 50 г сушаных каранёў, 1 л вады, 200 мл соку журавінаў, цукар па смаку.

#### ЛЕКАВЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ

У НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЕ дзівасіл высокі выкарыстоўваецца са старажытных часоў. Дзеянне яго на арганізм шматграннае: адхарквальнае, болесуцішальнае, мачагоннае, вяжучае, патагоннае, процізапаленчае, жаўцягоннае, заспакаяльнае. Ён паляпшае функцыі падстраўнікавай залозы, печані, нырак, надныpачнікаў.

НАСТОЙ З КАРАНЁЎ ДЗІВАСІЛУ. 50 г свежых каранёў дзівасілу, 20 г сушаных каранёў з карэнішчамі настойваць у 400 мл астуджанай гатаванай вады 8 гадзін. Піць па 100 мл 4 разы на дзень за 30 хвілін да яды пры запаленні лёгкіх, бранхітах, трахеітах, прастудзе. Можна дадаць мёд, варэнне па смаку.

АДВАР З КАРАНЁЎ І КАРЭНІШЧАЎ ДЗІВАСІЛУ. 20 г сушаных каранёў з карэнішчамі гатаваць 5 хвілін у 200 мл вады, настойваць у цёплым месцы 4 гадзіны, затым працадзіць. Піць па 1 сталовай лыжцы 3—4 разы на дзень за 30 хвілін да яды пры захворваннях лёгкіх, гастрытах, калітах, халецыстытах, язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, панкрэатытах, гіпертанічнай хваробе. Адварам паласкаць поласць рота і зева пры ангінах, стаматытах, рабіць кампрэсы на хворыя суставы пры рэўматызме, артрытах. Трэба памятаць, што прэпараты дзівасілу высокага можна прымяняць толькі па назначэнні ўрача. Пры перадазіроўцы могуць з'явіцца сімптомы атручэння.

Карэнішчы і карані дзівасілу высокага ўваходзяць у састаў адхарквальных, страўнікавых, мачагонных збораў.

Проціпаказанні: цяжкія захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, нырак.

#### НАРЫХТОЎКА ДЗІВАСІЛУ

НАРЫХТОЎВАЮЦЬ дзівасіл высокі ранняй вясной пры з'яўленні першых лістоў ці ў жніўні — кастрычніку. Расліны выкопваюць рыдлёўкамі, атрасаюць зямлю, адразаюць сцёблы, прамываюць халоднай вадой, карані танейшыя за 0,5 см абразаюць.

Сушаць на паветры, пад павеццю, на гарышчах, верандах, у сушылках, печах, духоўках пры тэмпературы 40—50 °С.

Высушаная сыравіна ўяўляе сабой сумесь бясформенных каранёў даўжынёй да 20 см, 1—8 см у дыяметры і каранёў рознай формы. Звонку яны шэрабурыя, на зломе жоўта-белыя, са своеасаблівым водарным пахам, вострыя, гаркаватыя, пякучыя на смак. Захоўваюць у сухім памяшканні, якое добра праветрываецца.

Для хуткага аднаўлення зараснікаў неабходна частку раслін пакідаць для насеннага размнажэння. Для гэтага ж кавалачкі карэнішчаў, на верхавінцы якіх ёсць пупышкі, закопваюць у зямлю.

Тэрмін захоўвання карэнішчаў і каранёў дзівасілу 3 гады.

Ніна АЛЯКСЕЙЧЫК, Валер САНЬКО.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 13 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

13.00. Выратуй і захавай.
13.45. «Суперкніга». Мультфільм. 5-я серыя.
14.20. «Майстар». Дак. фільм.
14.45. «Спявае Герард Васільеў».
15.00. Тэлеаўкцыён.
15.05. «Будзьце здаровыя!» Рэспубліканскі конкурс «Педагог года-92 дашкольных устаноў».
15.40. Аўтарскі канцэрт Генрыха Вагнера.
17.40. Грамадская думка. Бізнес не ведае межаў. Прымае ўдзел старшыня Дзяржаўнага камітэта па знешнеэканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь У. В. Радкевіч. Прамая лінія.
19.00. Пярэзвы. Заключны канцэрт І Рэспубліканскага фестывалю беларускага народнага танца. Першае аддзяленне.
19.40. Мультфільмы для дарослых «Шчаслівчык», «Пачвара».
20.00. Пярэзвы. Другое аддзяленне.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
21.40. «Сінема» прадстаўляе: «Бенвенута» (Бельгія — Францыя — Італія). Маст. фільм.
23.20. НІКа.
23.35. Футбол. КІМ (Віцебск) — «Днепр» (Магілёў).

**І канал. Астанкіна**

12.15. «Немцы ў другой сусветнай вайне» (Германія). Фільм 1-ы «Уступленне ў вайну».
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.20. «Казка аб цудоўнай Айсулу». Маст. фільм.
15.40. «Кацяня з вуліцы Лізюкова». Мультфільм.
15.50. Чырвоны квадрат.
16.30. «Сустрэчы з майстрамі». К. Бергонцы. І. Перльман.
17.00. Мецэнат Сава.
17.45. «Пчала Мая». Мультфільм.
18.10. «Ганна Карэніна» Маст. фільм (ЗША).
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.35. Што? Дзе? Калі?
21.35. Аншлаг, аншлаг... «Смех у мяшку».
23.00. Навіны.
23.15. Валейбол. Першынство сусветнай лігі. Зборная СНД — зборная Японіі.
0.15 Лёгкая атлетыка. «Крамлёўская міля».
0.45. «Інспектар Гул». Маст. фільм. 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

13.00. Весткі.
13.20. «Ішоў сабака па раялі». Маст. фільм.
14.25. «Вялікі малы бізнес». Да вынікаў І Усерасійскай канферэнцыі прадпрымальнікаў.
14.55. XX стагоддзе: у кадры і за кадрам. «Дарагі Мікіта Сяргеевіч».
16.25. Расійскае бюро падарожжаў.
17.10. Кантрасты.
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. «Маналогі С. Юрскага».
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. «Дзень добры і бывай». Маст. фільм.
21.00. Зусім сакрэтна.
22.00. Весткі.
22.20. Спартыўная карусель. Швецыя-92.
22.35. Праграма «А».
23.35. Вячэрні салон.

### 14 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. «Падарожжа мсье Перышона». Маст. фільм.
10.00. «Басейн». Дак. фільм.
10.10. Парады ўрача.
10.25. Пра шахматы і шахматыстаў. Заключны тур конкурсу. Вядучая — міжнародны гросмайстар К. А. Зварыкіна.
11.05. Літарынка.
11.35. Студыя «Мэта». Прэзентацыя рэспубліканскага цэнтра нацыянальных мастацкіх праграм (паўтор).
12.20. Асілак. Прамая лінія.
13.00. НІКа.
13.45. «Метычара — звер марскі». Маст. фільм з субцітрамі.
15.10. Клуб вясёлых і знаходлівых. Другі паўфінал Рэспубліканскага турніру.
16.55. Мецэнат. Гісторыя і сучаснасць.
17.50. «Сігма-92». Фестываль бальных танцаў.
18.50. Леанід Захлеўны: у кадры і за кадрам.
20.00. Панарама.
20.25. На шляху да Барселоны. Віталь Шчэрба. Спартыўная гімнастыка.
20.40. Калыханка.
21.00. Тэлеаўкцыён.
21.05. «Лацінаамерыканец». Маст. фільм (ЗША).
22.40. Шоу-казіно.

**І канал. Астанкіна**

6.00. Гадзіна сілы духу.
7.00. Рытмічная гімнастыка.
7.30. Тыраж «Спортлато».
7.40. IX Міжнародны фестываль «Вясёлка».
8.10. Свята рускага праваслаўя «Сёмуха».
8.30. Раным-рана.
9.10. Магчыма ўсё.
9.40. Ранішняя зорка.
10.30. Пад знакам «пі».
11.20. «Ах, прынцэса!» Мультфільм.
11.30. Кропка над «і».
12.10. Новае пакаленне выбірае.
13.00. КТБ-1 і канал «Франс інтэрнасіяналь»: «Запаведнікі дзікай прыроды». Фільм 3-ці.
13.30. «Марк і Сафі». Маст. фільм. Фільм 3-ці.
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.20. Дыялог у прамым эфіры.
15.00. Клуб падарожнікаў.
15.50. Тэлелоцыя.
16.05. «Шмат галасоў — адзін свет». «Сямейная спрэчка» (Узбекістан).
16.15. Панарама.
16.55. Уолт Дысней прадстаўляе...
17.45. Навіны.
18.00. Адкрыццё І Міжнароднага юнацкага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага ў Маскве.
20.15. Вынікі.
21.00. Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Зборная Швецыі — зборная Даніі. У перапынку (22.00) — Спартыўны уікэнд.
23.25. Пяць плюс.
0.25. «Роздум на тэму «Гамлет». Фільм-балет.

**Канал «Расія»**

7.00. Весткі.
7.25. Дак. панарама. «Вяртанне ў Ялец».
7.50. Чэмпіянат свету па баскетболу сярод прафесіяналаў НБА.
8.50. «Хочаце, верце...»
9.20. «Размовы напрасту». Перадача 4-я.
10.05. «Суперкніга». Мультфільм. 16-я серыя.
10.35. Аты-баты...
11.05. Кар'ера. Конкурсная праграма.
12.05. «Не смехам адзіным...» З. Паперны і Л. Лебядзінская.
12.50. Зігзаг удачы. Адборачны тур.
13.00. Весткі.
13.20. «Скрыпач». В. Траццякоў. Фільм 5-ы.
14.15. «У горадзе С». Маст. фільм.
15.55. «З усмешкай з Тбілісі». Дабрачынны канцэрт. Частка 2-я.
17.00. Момант ісціны. Былы дырэктар Чарнобыльскай АЭС В. Бруханаў адказвае на пытанні А. Каравулава.
18.00. Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Зборная Францыі — зборная Англіі.
20.15. Свята кожны дзень.
20.25. Тварам да Расіі.
20.45. Чэмпіянат свету па аўтагонках у класе формула 1.
23.15. Рок-кафэ.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

#### РАСЛІНЫ З МАРСКОГА ДНА

На гэтых малюнках схематычна паказаны прасцейшыя расліны — насельнікі акіянскіх глыбінь. Гэта дыятамеі — крамністыя або дыятамавыя водарасці. Яны растуць у прыдонным слоі акіянскіх вод паласы ўмеранага клімату.

На малюнках добра бачныя іх прыгожая структура і нават нейкая элегантнасць.

#### НАЗАВІЦЕ ПТУШКУ

На фотаздымку, змешчаным у «Суботнім вечары» 6 чэрвеня, адлюстраваны балотны лунь — драпежная птушка, якая селіцца звычайна каля вадаёмаў.

#### РАСКАЗВАЮЦЬ...

Калі адзін з сяброў амерыканскага пісьменніка-гумарыста Роберта Бенчлі (1889—1945 гг.) убачыў яго з кілішкам у руцэ, ён папракнуў пісьменніка: «Алкаголь жа — марудны яд!». «А чаго мне спяшацца!» — адпарыраваў Бенчлі.

Потым гэтая фраза ў розных варыянтах не раз гучала ў гумарыстычных апавяданнях і іншых творах, у эстрадных выступленнях...

#### ТО ХОЛАДНА, ТО ГОРАЧА

Ці не растлумачыце вы, чаму ў адным з твораў Джэк Лондан называе «пяцiградусны мароз» вельмі моцным, а рускі пісьменнік І. А. Ганчароў таксама скардзіўся, але на «трапічную гарачыню ў 23 градусы»?

Няўжо іх палохалі такія градусы? Або справа тут у чымсьці іншым?

#### ПАДЗЯЛІЦЕ АРЭХІ

Аднойчы тры хлапчукі назбіралі ў лесе арэхаў. Час быў позні, і яны вырашылі дзяльбу рабіць раніцой. А самі леглі спаць. Але адзін з іх, прачнуўшыся ноччу, не вытрымаў і адлічыў сваю долю. Потым гэтак жа зрабіў і другі. А праз некаторы час і трэці. Прычым кожны з іх не ведаў, што тое ж зрабілі і астатнія. Раніцой, калі яны падзялілі астатнія арэхі, то ўсім дасталося пароўну.

Колькі ж усяго назбіралі арэхаў хлапчукі? Спадзяёмся, што вы дапаможаце дзецям рашыць гэту нескладаную задачу.

#### ЛАБІРЫНТ

У гэтым лабірынце самы кароткі шлях ад уваходу да выхаду ідзе праз 27 кропак, а самы доўгі — праз 36 кропак пры ўмове, што па два разы праз адну кропку нельга праходзіць. Адшукайце гэтыя два шляхі.

## РАДЫЁ

### 14 чэрвеня

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.50, 15.00, 20.00, 23.00. 6.15 — канцэрт для працаўнікоў вёскі. 7.35 — «Дзесяць хвілін сацыёлага». 8.00 — вершы літоўскіх паэтаў. 8.40 — канцэрт ансамбля «Свята». 9.15 — «Вясёлы эфір». Радыётэатр сатыры і гумару. 10.00 — «Жадаю Вам...». Канцэрт-віншаванне. 11.00 — «У эфіры — Віцебск». Публіцыстычная перадача. 11.30 — «У вольную часіну». Музычная праграма. 12.20 — «Прагрэс». Весткі з рэспубліканскай Акадэміі навук. 12.30 — «Знаёмае і незнаёмае». Канцэрт-загадка. 13.00 — «Паходня». Праграма для вайскоўцаў. 14.00 — «Чалавек сярод людзей». 15.15 — «Прэм'ера песні». 15.30 — «Ветэран». Радыёчасопіс. 16.05 — «Крылы». Мастацка-публіцыстычная праграма. 17.00 — А. Кудравец. «На балоце скрыпелі драчы». Інсцэніраванае апавяданне. 18.00 — «Дудка беларуская». Праграма духоўнага адраджэння. 18.40 — музычная праграма, прысвечаная калектыву салігорскага народнага прадпрыемства «Калінка». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.30 — «Вячэрнія зарніцы». 21.00 — В. Быкаў. «Мёртвым не баліць». Радыёспектакль. 23.10 — «Музычная хваля». 0.00 — «Начны канал».

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ. СЁННЯ Ў НУМАРЫ

«Пагоня». Газета ў газеце.

«Зноў вакол рэферэндуму». Гавораць дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі.

«Імкнучыся да міру, не забываць пра небяспеку». Грамадзянская абарона.

Пункт погляду. «Не скрыгачыце!» Выступленне рабочага.

Камандзіроўка па пісьму. «Шэсць кошак ля акенцаў».

«Зона». Фотаінфармацыя з чарнобыльскай зоны.

«Асабісты архіў Сталіна». Старонкі гісторыі.

Лёсы. «Кожны, як брат родны...»

Мімаходзь. «Сервіс з «колаў».

«Кругагляд». Агляд міжнародных падзей.

Футбол. Навіны.

Рэклама. Аб'явы.

## КРЫЖАВАНКА

Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы.

**Па гарызанталях:** 5. Шурин. 6. Краснотал. 9. Задор. 10. Известь. 14. Трудящийся. 15. Струя. 19. Холм. 21. Зола. 22. Краска. 26. Улыбка. 31. Вождь. 32. Юбка. 34. Приказание. 35. Чудо. 38. Оладья. 39. Осокорь.

**Па вертыкалях:** 1. Завтрак. 2. Близнецы. 5. Щука. 7. Горбушка (хлеба). 11. Разговор. 12. Откос. 13. Голубика. 16. Опушка (леса). 17. Чомга. 23. Избыток. 24. Недра. 25. Вред. 27. Почет. 28. Исполком. 29. Повесть. 30. Фонарь.

**Па дугах:** 3. Цепь. 4. Буква. 8. Главарь. 18. Аконит. 20. Копилка. 33. Тюфяк. 36. Лента. 37. Загон.

Склаў В. ПІНЧУК.
г. Бабруйск.

Адказы на крыжаванку, змешчаную 6 чэрвеня

**Па гарызанталях:** 5. Мноства. 6. Парахня. 10. Высna. 12. Крэсіва. 13. Дзяжа. 17. Стогн. 18. Калаўрот. 19. Арыгінал. 20. Рып. 22. Палатно. 23. Акравак. 25. Гак. 28. Пахабнік. 30. Зашчапка. 31. Ажына. 32. Зябер. 34. Наганяй. 35. Церам. 36. Абгавор. 37. Натацыя.

**Па вертыкалях:** 1. Гора. 2. Хвораст. 3. Пахвіна. 4. Сход. 7. Выклад. 8. Усходы. 9. Ужытак. 11. Пераканaнне. 14. Замілаванне. 15. Жартаўнік. 16. Прыгаршчы. 20. Рог. 21. Пак. 24. Разьбяр. 26. Асыпак. 27. Экстаз. 29. Каташок. 30. Заняпад. 33. Рага. 35. Цаца.

## НАДВОР'Е

### 13 чэрвеня

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродна — 20—22, Брэсце, Віцебску і Мінску — 22—24, Гомелі і Магілёве — 23—25 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак захаваецца няўстойлівае надвор'е. Месцамі па рэспубліцы чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы 9—14, удзень — 21—26 градусаў цяпла.

Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.



## ФІЛЬМЫ ТЫДНЯ

● «ПАМІРАЦЬ НЕ СТРАШНА»
● «УСЁ АДКЛАДВАЮ ЦЯБЕ ЗАБЫЦЬ»
● «БАЯВОЕ МАЙСТЭРСТВА ШААЛІНЬ»
● «ЗОНА СМЕРЦІ»

Новую каляровую мастацкую кінастужку «ПАМІРАЦЬ НЕ СТРАШНА», знятую па сцэнарыю Наталлі Фокінай, перадае на суд гледачоў Маскоўская кінастудыя імя М. Горкага.

Сярэдзіна 30-х гадоў. Героі карціны — члены старой інтэлігенцкай сям'і, якіх рэвалюцыя пазбавіла ўсяго, акрамя шчырай адданасці і вернасці адзін аднаму. І вось у гэту сям'ю ўрываецца ўсемагутны НКУС. Ксеніі, маці дваіх малалетніх дзяцей, прапануюць працаваць на органы. Нягледзячы на ўгаворы і пагрозы, мужная жанчына адмаўляецца. Праз некалькі дзён уначы за ёю і яе старым бацькам прыходзяць людзі ў цывільным.

Леў Куліджанаў, які зняў гэту карціну, — вядомы майстар кіно. На яго творчым рахунку паўтара дзесятка мастацкіх фільмаў, сярод іх — «Дом, у якім я жыву», «Калі дрэвы былі вялікімі», «Сіні сшытак», «Злачынства і пакаранне» і іншыя.

У ролі Ксеніі Мікалаеўны — Вольга Кабо. Маладая актрыса за апошнія два гады знялася ў карцінах «Нячыстая сіла», «Камедыя аб Лісістраце», «Каханне немаладога чалавека», «Рыцарскі замак», «Правінцыялка».

У фільме заняты таксама Міхаіл Глузскі, Юрый Бяляеў, Георгій Тараторкін, Сяргей Ніканенка, Людміла Чурсіна.

***

Балгарскімі кінематаграфістамі знята каляровая мастацкая кінастужка «УСЁ АДКЛАДВАЮ ЦЯБЕ ЗАБЫЦЬ». Аўтар сцэнарыя — Мікалай Нікіфараў, рэжысёр — Стэфан Гырдзеў.

Журналісту Якімаву, які заняты работай над матэрыялам аб крадзяжах у сельгаскааператыве, зладзеі «шыюць» справу аб згвалтаванні. Аграном Сія, якая згадзілася стаць «ахвярай», нечакана для сябе закахалася ў Якімава. Горка шкадуе яна аб учыненым і імкнецца дапамагчы герою выблытацца з гэтай складанай сітуацыі.

Галоўныя ролі выконваюць Албена Чакырава, Юліяна Караньётава, Эміл Джураў і іншыя.

***

Не так даўно гледачы пазнаёміліся з вострапрыгодніцкім ганконгскім фільмам «Замак Шааліні», пастаўленым рэжысёрам Чангам Сінху па сцэнарыю Лу Шау Чана ў кінакампаніі «Жамчужная рака». Ён расказваў пра зараджэнне барацьбы кун-фу ў перыяд абароны замка Шааліні. І вось цяпер тая ж кінакампанія і творчая група прапануюць вашай увазе каляровую шырокаэкранную мастацкую кінастужку «БАЯВОЕ МАЙСТЭРСТВА ШААЛІНЬ», якая з'яўляецца лагічным працягам першай карціны.

...Імператар са сваімі прыбліжанымі спяшаецца на дапамогу сябру, захопленаму лордам Хі-Суо і прыгавoранаму да смерці, але спазняецца. Хі-Суо забівае і самога імператара.

Дзеці забітых выраслі і хочуць адпомсціць за сваіх бацькоў. Іх чакаюць неверагодныя прыгоды...

Фільм вызначаецца напружаным інтрыгуючым сюжэтам і мноствам выдатна пастаўленых сцэн паядынкаў майстроў кун-фу.

***

Амерыканскія кінамайстры прапануюць вашай увазе каляровую мастацкую кінастужку «ЗОНА СМЕРЦІ». Яе паставіў рэжысёр М. Снайдэр. У вострасюжэтнай форме фільм расказвае аб смяротных прыгодах галоўных герояў на трапічным востраве, куды звезены вельмі небяспечныя злачынцы.

...Супрацоўнік дзяржаўнай установы, які даў Райскаму востраву яго назву, відаць, меў пачуццё гумару, таму што Райскі востраў па сутнасці сапраўднае пекла. На яго адпраўляліся самыя адпетыя бандыты і забойцы. Уцячы немагчыма — высока ў небе лунае спадарожнік, і лазерны прамень знішчае вязня, які вырываецца на волю.

На востраў скінуты з парашутам Эрык і Ева. Эрык асуджаны за ўдзел у тэрарыстычнай арганізацыі, а Ева — яго жонка, яна не можа жыць без мужа.

Пры прызямленні на востраў Эрык і Ева аказваюцца далёка адзін ад аднаго. А вакол банды паўлюдзей-паўзвяроў...

У фільме ёсць усё: і смяротныя бітвы, і каханне, і экзатычныя трапічныя краявіды, і першабытныя інстынкты чалавечай натуры.

Ролю Евы, жонкі Эрыка, выдатна выконвае папулярная актрыса Айрыні Кара.

НА ЗДЫМКУ: кадр з фільма «Паміраць не страшна».

## Уратуй Кобрын, святая Ганна!

КОБРЫН. Старажытны герб, нададзены ў 1589 годзе Кобрыну каралевай Ганнай Ягелонкай у пацвярджэнне Магдэбургскага права, вяртаецца зноў у горад. Нядаўна выява Багародзіцы і святой Ганны з дзіцем на руках з'явілася пры ўваходзе ў сярэднюю школу № 8. А вось афіцыяльным гербам горада ён пакуль не зацверджаны.

І. СІДАРУК.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін — 32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 117.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12